www.nv-online.info

№ 36 (4083)

13 мая 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЧУЛІ?

## Самалёты з Кіева ў Мінск будуць лятаць тройчы на дзень

*Авіякампанія «Міжнародныя авіялініі Украіны» (МАУ) павялічвае з 25 мая колькасць палётаў у Мінск да трох штодзённых рэйсаў.*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Танны макіяж ад Ярмошынай

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, якая ўжо нагнала аскому, абяцае павысіць празрыстасць выбараў, як тое раіць АБСЕ. Раней беларускія ўлады размаўлялі з гэтай арганізацыяй праз губу, але цяпер тон стаў лагоднейшы, бо, і дурню ж вядома, надта патрэбны заходнія грошы. Заявы гучаць так ліберальна, што можна падумаць: ну, нейкі воўк у лесе здох. Аднак калі разабрацца, то шырока разрэкламаваныя навацыі, якія ЦВК збіраецца ўкараніць ужо на сёлетніх парламенцкіх выбарах, – гэта толькі танны, грубы макіяж, якім рупяцца замаскіраваць выродлівае аблічча выбарчага працэсу ў "краіне аднаго палітыка".

Напрыклад, паабяцана, што фарміраванне выбаркамаў стане болей галосным і дыскусійным. Публіцы пачнуць тлумачыць, *"чаму аддаецца перавага на карысць той ці іншай кандыдатуры"*, абяцае старшыня ЦВК. Але што з таго? Вертыкаль заявіць, што апазіцыйныя вылучэнцы не маюць адпаведнага досведу (што праўда, бо ім заўжды казалі "ад вінта") – і кропка. Заканадаўчых гарантый, каб у камісіі ўлучаліся прадстаўнікі апазіцыйных партый, як не было, так і няма.

Ці вось яшчэ нібыта навацыя: раней сябры ўчастковых камісій нярэдка проста загароджвалі стол з бюлетэнямі сваімі, скажам вобразна, кумпякамі. Зараз прагрэс будзе ў тым, што падлік стануць рабіць на адным баку стала. *"Назіральнікі рэальна мусяць назіраць не спіны сябраў камісій, а тое, як ідзе сартаванне і падлік бюлетэняў"*, – важна заявіў сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.

Але гэта зусім не азначае, што сам падлік стане болей празрыстым. Бо ніхто не абяцае, што назіральнікам пакажуць кожны бюлетэнь, ды так, каб было бачна, як ён запоўнены. А ўглядацца здалёк, як тасуюць аркушы, – што толку?

Звычайная практыка ўчастковых выбаркамаў такая: кожны сябар камісіі падлічвае свой стосік бюлетэняў ды моўчкі перадае старшыні цыдулку. Што за лічбы ў тых цыдулках і ці ўлічваюцца яны ў выніковым пратаколе – цёмны лес. Далей, не вядома, наколькі карэктна падсумоўваюцца звесткі з тых пратаколаў у камісіях вышэйшых узроўняў. Карацей, даверу да канчатковых афіцыйных лічбаў няма, бо іх немагчыма пракантраляваць. Зрэшты, нават калі ў публічную прастору трапляюць сведчанні пра фальсіфікацыі (згадайма выкрывальніцкія заявы падпалкоўніка міліцыі Мікалая Казлова пра ўкід бюлетэняў на выбарах-2008), то гэта ў беларускіх умовах – марны лямант у пустыні. Самога заяўніка выставяць хлусам ды правакатарам.

І зараз улады відавочна не захочуць прыадчыняць заслону сваёй таямнічай электаральнай бухгалтэрыі назіральнікам, грамадскасці, нягледзячы на ўсе гульні з Еўропай. Бо з уладай Аляксандр Лукашэнка не жартуе, не эксперыментуе, а трымаецца за яе жалезнай хваткай. Нават некалькі апазіцыянераў у парламенце пры ўсёй абмежаванасці яго паўнамоцтваў – гэта ўжо костка ў горле для ўладнай вярхоўкі. Найперш жа незмяняльны прэзідэнт, я мяркую, трымае ў галаве неабходнасць перыядычна афармляць яшчэ на пяцігодку працяг уласнага кіравання.

У гэтым сэнсе наступная прэзідэнцкая кампанія абяцае быць цяжкай. Ужо сёлета ў сакавіку, яшчэ да ўказа аб павышэнні пенсіённага ўзросту, электаральны рэйтынг Лукашэнкі, паводле дадзеных НІСЭПД (зарэгістраваны ў Літве), споўз да 27,3%. А крызіс жа толькі ўбіраецца ў сілу, давядзецца ісці на новыя непапулярныя захады. Так што на выбарах-2020 архітэктар калапсуючай "беларускай мадэлі" рызыкуе праляцець як фанера над Парыжам. Натуральна, калі тыя выбары будуць празрыстыя. Таму раней рак на гары свісне, чым Мінск кінецца выконваць прынцыповыя рэкамендацыі АБСЕ.

Калі б хацелі, дык маглі б змяніць выбарчае заканадаўства ўжо да сёлетніх выбараў у Палату прадстаўнікоў. Але ж вырашылі абмежавацца псеўданавацыямі ў метадычках ды пастановах ЦВК. Мяркую, што і далей працэс будзе ісці, як мокрае гарыць.

І потым, выбары – гэта ж не толькі падыход электарату да скрынь на ўчастках, як дэманструе дзяржаўнае тэлебачанне. Найперш у краіне трэба стварыць цывілізаваную атмасферу для канкурэнтнай палітыкі – без рэпрэсій, з медыйным плюралізмам, каб выбаршчык меў шырокую магчымасць азнаёміцца з усімі кандыдацкімі праграмамі. У Беларусі ж партыі, напрыклад, увогуле не рэгіструюць з 2000 года. Доступ кандыдатаў да дзяржаўных СМІ – паводле прынцыпу "даць адчапнога". Нават ўлёткі цяпер трэба друкаваць за свой кошт.

Так што апазіцыйным кандыдатам выйсці на шырокую грамаду няпроста, праўладныя ж і ў вус не дзьмуць, бо на іх працуе адміністрацыйны рэсурс. Злыя языкі кажуць, што спіс новага складу Палаты ўжо фактычна гатовы.

Ва ўсякім разе, на сустрэчы з яе спікерам Уладзімірам Андрэйчанкам Лукашэнка наўпрост заявіў, што на чарговых парламенцкіх выбарах няма патрэбы "гуляць у нейкую незразумелую дэмакратыю". І вертыкаль адразу прасекла, што кампанію трэба ладзіць у "найлепшых" традыцыях. А пані Ярмошына тым часам хай пускае пыл у вочы Еўропе.

КРЫМІНАЛ

## Прыехалі

*Чатыры супрацоўнікі Мінскай рэгіянальнай мытні разам з пасрэднікам заключаны пад варту.*

Як паведамляе прэс-служба КДБ, супрацоўнікі Мінскай рэгіянальнай мытні праз пасрэдніка з ліку былых работнікаў на працягу некалькіх гадоў сістэматычна атрымлівалі хабар ад камерсантаў. За гэтыя грошы яны дапамагалі паскорыць мытнае афармленне грузаў, а таксама праводзілі неналежным чынам мытны кантроль.

Напрыклад, начальніка Маладзечанскага мытнага паста затрымалі пры атрыманні чарговага хабару ў 1100 доляраў. Пасрэднік (былы супрацоўнік мытні) пры перадачы хабару таксама затрыманы.

На падазроных распачалі крымінальныя справы за атрыманне хабару і дапамогу ў атрыманні хабару.

АФІЦЫЙНА

## На МТС няма пакупнікоў?

*Аўкцыён па продажы дзярждолі мабільнага аператара "МТС" сёлета праводзіцца не будзе.*

Пра гэта паведаміў міністр сувязі і інфарматызацыі Беларусі **Сяргей Папкоў**.

*«Цяпер такая задача не стаіць. Хачу адзначыць, што сёння на рынку продажу аб'ектаў тэлекамунікацый такіх прыкладаў няма. Не самы выгадны час нешта прадаваць цяпер, так што адказ – не»*, – заявіў міністр.

Нагадаем, першая ацэнка дзярждолі праводзілася ў 2010 годзе. Тады пачатковы кошт продажу дзяржпакета быў заяўлены ў 1 млрд долараў ЗША. Пакупнікоў не знайшлося да гэтага часу...

# Падаем...

*У 2015 годзе эканоміка Беларусі «здала» на 3,9 працэнта. Прагноз Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця на 2016 год – эканоміка нашай краіны можа апынуцца ў мінусе яшчэ на 3 працэнты.*

3,9 % + 3 %

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Арганізатары Беларускага нацыянальнага кангрэса вырашылі правесці ўстаноўчую сесію 15 мая ў сталічным скверы імя Янкі Купалы

Рашэнне правесці ўстаноўчую сесію Кангрэса на адкрытым паветры было прынята пасля таго, як аргкамітэт не змог арандаваць неабходнае памяшканне. «Ёсць палітычнае рашэнне ўлад, накіраванае на зрыў Кангрэса, – заявіў член аргкамітэта **Мікалай Статкевіч.** – Лічым, нам кінуты выклік, мы яго прымаем. Кангрэс набывае новы акцэнт – гэта будзе не толькі пачатак працэсу аб'яднання апазіцыі, гэта будзе яшчэ і наш унёсак у барацьбу людзей за правядзенне мірных сходаў».

Аргкамітэт заклікаў грамадзян прыйсці ў нядзелю апоўдні да помніка Янку Купалу ў аднайменны сквер і падтрымаць дэлегатаў Кангрэса ў іх барацьбе за права на мірныя сходы.

Аргкамітэт таксама звярнуўся да кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў замежных краін. «Многія з вас убачылі станоўчыя змены ва ўладзе. Прыйдзіце і пераканайцеся, ці так гэта», – сказаў Статкевіч.

Акрамя таго, аргкамітэт заклікаў кіраўнікоў іншых апазіцыйных структур, якія не падтрымалі правядзенне Кангрэса, прыйсці ў сквер Янкі Купалы ў якасці беларускіх грамадзян і падтрымаць патрабаванні за свабоду правядзення мірных сходаў.

Член аргкамітэта **Уладзімір Някляеў** удакладніў, што ў сувязі з немагчымасцю правядзення паўнавартаснага пасяджэння Кангрэса 15 мая адбудзецца яго ўстаноўчая сесія. Пры гэтым дэлегатам будзе прапанавана абраць пастаянны дзейны орган – Раду Кангрэса, уключыўшы туды прадстаўнікоў рэгіёнаў і цэнтральных органаў дэмакратычных партый і арганізацый.

Як паведамлялася раней, арганізатары Кангрэса спрабавалі знайсці памяшканне для яго правядзення, але ўсюды атрымлівалі адмову. «Распарадчыкі дзяржаўных памяшканняў адразу палохаліся, шмат хто проста казаў, што ў іх на бліжэйшыя месяцы ўсе памяшканні заняты, хоць падчас нашага наведвання усе яны былі вольныя. А ўладальнікі прыватных памяшканняў шчыра прызнаюцца, што не жадаюць праблем», – распавёў БелаПАН Статкевіч.

Мінгарвыканкам адмовіўся садзейнічаць у пошуку памяшкання для правядзення Кангрэса.

Правядзенне Кангрэса дэмсіл з мэтай кансалідацыі апазіцыі ініцыявала ў снежні мінулага года група грамадскіх дзеячаў, а неўзабаве вядомыя палітыкі Мікалай Статкевіч, Уладзімір Някляеў і Станіслаў Шушкевіч абвясцілі пра стварэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы дэмакратычнага форуму. Апрача іх на сённяшні дзень у склад аргкамітэта ўваходзяць **Дзмітрый Дашкевіч, Вячаслаў Сіўчык, Андрэй Саннікаў, Генадзь Фядыніч** і **Міхаіл Пастухоў.**

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ.**
БелаПАН.



МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
пр. Незалежнасці, 8, 220030, г. Мінск
Тэл/факс (017) 218 00 90, 327 68 66
Р/р 3604740104015
у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанк» па г. Мінску і Мінскай вобласці, код 739

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
пр. Независимости, 8, 220030, г. Минск
Тел/факс (017) 218 00 90, 327 68 66
Р/с 3604740104015
в Дирекции ОАО «Белинвестбанк» по г. Минску и Минской области, код 739

06.05.2016 № 6-7-5257 ...
На № ______ ад ______

Федынічу Г.Ф.
(для інфармавання іншых заяўнікаў)
вул. Мельнікайтэ, 8-17
г.Мінск

Аб прадастаўленні памяшкання

У Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце разгледжаны зварот групы грамадзян "аб прадастаўленні памяшкання" для правядзення 15.05.2016 "кангрэса дэмакратычных сіл".

У адпаведнасці з заканадаўствам правядзенне мерапрыемстваў з'яўляецца правам арганізатараў (грамадзян ці юрыдычных асоб), якія самастойна ажыццяўляюць пошук месцаў для іх правядзення. Іх пошук не ўваходзіць у кампетэнцыю Мінскага гарвыканкама.

Разам з тым, паведамляем, што ў г.Мінску вашым патрабаванням адпавядае звыш 30 памяшканняў. Рэкамедуем звярнуцца да адпаведных суб'ектаў гаспадарання з мэтай заключэння дагавароў арэнды.

Звяртаем таксама вашу ўвагу на тое, што з тэкста звароту не зразумела, ці распаўсюджваецца на гэтае мерапрыемства заканадаўства аб масавых мерапрыемствах або аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах.

Намеснік старшыні [подпіс] І.В.Карпенка

## Ад рэдакцыі «Народнай Волі»

Што і казаць, дэмакратыя па-беларуску.

Калі б спадару І.Карпенку спатрэбілася знайсці памяшканні для бээрэсэмаўцаў і тых жа праўладных камуністаў, якіх ён, як сакратар ЦК, узначальвае, пытанне вырашылася б за пяць хвілін. А тут... "іх пошук не ўваходзіць у кампетэнцыю Мінскага гарвыканкама". Як быццам ён не ведае, што без адмашкі зверху ні адзін "суб'ект гаспадарання" не заключыць дагавор арэнды з дэмакратычнай грамадскасцю.

Здзіўляе іншае. Чаму ўлады, як кажуць, на роўным месцы ствараюць праблемы, якія шкодзяць прэстыжу краіны, аўтарытэту яе кіраўнікоў? Кангрэс дэмакратычных сіл – гэта ж не вулічная пратэстная акцыя, а звычайны сход, на якім пэўная група людзей вырашыла ўзгадніць свае пазіцыі, прыняць тую ці іншую рэзалюцыю.

Не будзем гадаць, як рэалізуецца заява таго ж М.Статкевіча наконт таго, што арганізатары Кангрэса вымушаны правесці ўстаноўчую сесію пад адкрытым небам у скверы імя Я.Купалы, але "Народная Воля" вырашыла спецыяльна надрукаваць праекты некаторых дакументаў, якія павінны былі абмяркоўвацца і прымацца на прызначаным Кангрэсе ў нармальнай абстаноўцы. Чытачы самі могуць зрабіць высновы, наколькі актуальны тыя пытанні, тыя праблемы, якія ўздымаюцца ў праектах рэзалюцый, што меркавалася прыняць на Кангрэсе.

### Мэта Кангрэса

Кансалідацыя дэмакратычных сіл краіны дзеля пабудовы вольнай, незалежнай і заможнай Беларусі.

### Задачы Кангрэса

Даць ацэнку сённяшняму стану беларускай дзяржавы, нацыі, народнай гаспадаркі, грамадства і тэндэнцыям да яго змен.

Прыняць праграму вываду з сістэмнага крызісу, захавання і развіцця Беларусі.

Зацвердзіць механізм супольных дзеянняў і бліжэйшыя задачы дэмакратычных сіл.

### Парадак дня Кангрэса

*(Праект)*

I. Беларусь: стан дзяржавы і нацыі.
II. Шлях да незалежнасці і дабрабыту.
III. Супольныя дзеянні дэмакратычных сіл.

## Беларусь: стан дзяржавы і нацыі (Праект рэзалюцыі)

Сучасная беларуская дзяржава прыватызавана аўтарытарным рэжымам з мэтай панавання над краінай. Рэальныя дэмакратычныя інстытуты ў Беларусі зліквідаваны, выбары ператвораны ў фарс, улада падаўляе любыя выявы іншадумства, грамадскага супраціву, скіраванага на ўсталяванне дэмакратыі, законнасці, правоў чалавека.

Мэце захавання ўлады цалкам падпарадкавана эканоміка, якая менавіта па гэтай прычыне не здольна развівацца. 70% эканомікі наўпрост кіруецца рэжымам, астатняя частка знаходзіцца ў залежнасці ад яго. Жорсткі цэнтралізаваны кантроль над фінансамі і працоўнымі месцамі забяспечвае палітычнае панаванне над грамадствам.

Не маючы дастатковых сродкаў на захаванне архаічнай эканамічнай мадэлі, рэжым распрадае нават тыя актывы, якія з'яўляюцца асновай суверэнітэту Беларусі. Прададзена ўся газатранспартная сістэма, частка вайсковага суверэнітэту, большая частка тэлевізійнай прасторы. Праз крамлёўскія датацыі і прэферэнцыі, якімі падтрымліваецца рэжым, Беларусь патрапіла ў небяспечную залежнасць ад Расіі.

Крызіс расійскай сыравіннай эканомікі пацягнуў на дно цесна прывязаную да яе нерэфармаваную эканоміку Беларусі. Падае вытворчасць, змяншаюцца даходы насельніцтва, расце беспрацоўе, павялічваецца знешняя запазычанасць. Усё больш беларусаў пакідаюць сваю краіну, якой пагражае страта вядучых галін прамысловасці і сацыяльны крызіс.

Агрэсіўная палітыка расійскага кіраўніцтва выявіла небяспеку не толькі палітычнай і эканамічнай, але і нацыянальнай палітыкі беларускага рэжыму. Каб дагадзіць свайму манапольнаму донару і прадухіліць нацыянальнае гуртаванне грамадства, рэжым паслядоўна знішчаў гістарычную памяць беларусаў, нацыянальную культуру, нашу мову. Паслядоўная і мэтанакіраваная палітыка русіфікацыі стала сур'ёзнай пагрозай суверэнітэту краіны.

Нягледзячы на відавочную згубнасць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі, кіруючы рэжым адмаўляецца ад жыццёва неабходных палітычных і эканамічных рэформ. Прычына адна: дэмакратычныя рэформы прывядуць да страты аўтарытарнай улады. Таму рэжым спрабуе працягнуць час свайго існавання, забіраючы ўсё, што можна забраць, у народа. Нават у пенсіянераў і беспрацоўных.

Пры пануючым рэжыме само існаванне нашай дзяржавы, беларускай нацыі пастаўлена пад пагрозу. Каб пазбегнуць гэтага, нацыя павінна згуртавацца і змусіць рэжым сысці.

Уладу – народу!

## Беларускі нацыянальны кангрэс: платформа перамен (Праект)

*Нас усіх гэта хвалюе.*

Збядненне людзей, рост цэн, беспрацоўе.

Карупцыя, свавольства і безадказнасць чыноўнікаў і ўлады.

Наша здароўе і стан навакольнага асяроддзя.

Занепад нацыянальнай культуры і нізкі ўзровень адукацыі.

Пагрозы незалежнасці, міру і спакою ў Беларусі.

Кожны можа прадоўжыць гэты спіс, але адказ на пытанне «Як жыць далей?» для ўсіх адзіны.

Каб вырашыць праблемы беларусаў, патрэбны рэальныя рэформы, патрэбны гарантыі для працоўных і ўласнікаў, неабходна павага да правоў і свабод людзей і адкрытасць краіны для свету.

Каб жыццё стала лепшым, неабходны не падачкі ад Расіі, а разумная, адказная і патрыятычная ўлада, якая ведае, што рабіць. Патрэбна ўлада, якой народ можа давяраць і даручыць свой лёс, а калі яна будзе няздольная – адправіць яе ў адстаўку і паклікаць лепшую.

Таму мы за перамены.

Таму мы за свабодныя і справядлівыя выбары ўлады.

Мы гатовы прапанаваць зразумелую і дакладную праграму, што трэба рабіць, каб вырашаць праблемы па кожным пункце.

Мы рады супрацоўнічаць з усімі, хто за здаровыя змены, і заклікаем да шчырай дыскусіі і супольнай працы.

## 7 тэзісаў нашай платформы перамен

### 1. Выратаванне нацыі

Сёння краіна Беларусь і беларускае грамадства стаяць перад пагразой разбурэння нацыянальнай ідэнтычнасці і страты незалежнасці. Эканамічны і палітычны крызіс, у які трапіла наша краіна, – таксама вынік антынацыянальнай дзейнасці рэжыму Лукашэнкі. Выратаванне Беларусі – гэта не толькі рэфармаванне эканомікі і аднаўленне дэмакратыі, гэта абарона беларускай мовы, культуры, гісторыі. Гэта адкрытасць цывілізаванаму свету і супрацьстаянне агрэсіі «русского мира».

### 2. Эканоміка і дабрабыт

Асновай пабудовы дабрабыту для беларусаў павінна быць прыняцце новага эканамічнага курсу, угрунтаванага на дэмакратычных стандартах, адкрытай канкурэнцыі, рынкавых прынцыпах і гарантыях для ўласнікаў і працоўных.

Галоўная мэта эканамічных рэформ – павышэнне эканамічнай эфектыўнасці і выхад на еўрапейскі ўзровень паводле параметраў якасці жыцця.

Галоўны рэсурс – чалавечы фактар: свабода прадпрымальніцтва, свабода канкурэнцыі, укараненне апошніх дасягненняў у менеджменце і тэхналогіях.

Найважнейшыя ўмовы – макраэканамічная стабільнасць: бездэфіцытны дзяржбюджэт, ліквіднасць банкаўскай сістэмы, зніжэнне інфляцыі, стабільны валютны курс, нізкі ўзровень беспрацоўя, скарачэнне дзяржаўнага доўгу, павышэнне нормы зберажэнняў і інвестыцый.

### 3. Клопат пра людзей

Чалавек і ягоныя патрэбы павінны стаць галоўнымі крытэрыямі ацэнкі дзейнасці дзяржавы і ўсіх яе інстытуцый. Без поўнага ажыццяўлення правоў і свабод чалавека немагчыма развіццё краіны і павышэнне якасці жыцця. Аднаўленне свабоды слова і сумлення, сходаў і дэманстрацый, спыненне ціску на палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі і прафсаюзы, на грамадскіх і палітычных актывістаў будуць першымі крокамі дэмакратызацыі беларускага грамадства.

Клопат дзяржавы пра людзей – гэта напаўненне рэальным зместам сацыяльных праграм, у тым ліку, вяртанне неабходных ільгот пэўным катэгорыям насельніцтва, справядлівая пенсіённая сістэма, ільготныя крэдыты на жыллё, лячэнне, навучанне, істотная дапамога дзецям, сем'ям і недзеяздольным. Абавязковыя шырокія праграмы дапамогі моладзі ў атрыманні адукацыі і працы.

### 4. Здароўе і экалогія

Беларусь, якая пацярпела ад Чарнобыльскай катастрофы, павінна стаць чыстай і здаровай краінай. Для гэтага найперш неабходна:

– павелічэнне фінансавання аховы здароўя да паказчыкаў, блізкіх да сярэднееўрапейскіх, стварэнне сістэмы прыярытэтнага фінансавання навуковых даследаванняў у галіне практычнай медыцыны, дыферэнцыраванае павелічэнне выплат медыцынскім работнікам;

– стварэнне эфектыўнай сістэмы медыцынскага страхавання;

– перагляд экалагічных крытэрыяў, а таксама праграм эксплуатацыі забруджаных радыяцыяй тэрыторый.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

